

# Газета Слонімская

*Газета заснавана ў 1938 годзе. Аднаўлена ў 1997 годзе.*

№ 44 (125). 28 кастрычніка — 3 лістапада 1999г. **Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік. Распаўсюджваецца ў Слоніме, Зэльве, Дзятлаве, Мастах.** Кошт 40.000 руб.


ПРАБЛЕМА

## ПРЫЕХАЛІ

**85% слонімскіх гарадскіх аўтобусаў нягодныя да эксплуатацыі.**

Пра гэта карэспандэнту "ГС" паведаміў дырэктар Слонімскага аўтапарка №3 Уладзімір Нікалаеў.

Ён адзначыў, што з усіх "ікарусаў" толькі адзін прыгодны для перавозкі пасажыраў. Некаторым аўтобусам, — сказаў Уладзімір Мікалаевіч, — ужо па 18 гадоў, і іх даўно трэба "замуж аддаваць".

— Самая вялікая праблема, — сказаў дырэктар аўтапарка, — праблема фінансаў. Наш аўтапарк пастаянна крыўдзяць гарадскія ўлады, не даюць грошай. Нафтабазе за паліва мы запазычылі шмат грошай. Няма ні рубля на рамонт аўтобусаў, на закупку запчастак. Тым часам машыны псуюцца штодзённа ад перагрузак. А ўвогуле новы аўтобус каштуе 43 мільярды рублёў. Такія грошы нам толькі сніліся, бо ў год прадпрыемства зарабляе ўсяго 11 мільярдаў рублёў.

А што датычыць кошту гарадскіх білетаў, — дадаў Уладзімір Нікалаеў, — то на сённяшні дзень пасажыры аплочваюць толькі 30% сабекошту праезду. 40% насельніцтва мы возім бясплатна. Плюс да ўсяго ў Слоніме вельмі дрэнныя вуліцы. Па дарогах да Альбярціна ездзіць проста немагчыма... Дарожная сетка ў Слоніме складае 96,7 км, а ў Лідзе — 93 км. Хаця ў Лідзе пражывае больш за 100 тысяч жыхароў. Праблем вельмі шмат, і ці вырашым мы іх у цяперашні складаны час — цяжка сказаць, — прызнаўся Уладзімір Нікалаеў.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

### Шалёныя пазыкі

**Больш як 100 мільярдаў рублёў завінавацілі раённаму прадпрыемству электрасетак прадпрыемствы і гаспадаркі Слонімшчыны за скарыстаную электраэнергію.**

Амаль палова сумы гэтай пазыкі прыходзіцца на саўгас "Слонімскі". Нават здача чарговай партыі жывёлы не выратавала гаспадарку ад адключэння электрычнасці ў майстэрнях і канторы. На сённяшні дзень саўгас павінен за энергію амаль 45 млрд. рублёў. Па гэтай прычыне няма святла ў адміністрацыйным будынку і майстэрнях саўгаса "Маладая гвардыя", які павінен энергетыкам 14,2 млрд. рублёў. 8,1 млрд. рублёў завінаваціла за электрычнасць слонімская КЭЧ, 2 млрд. рублёў — тэлерэтранслятар і іншыя.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

## ПАМЁР ПАЭТ АНАТОЛЬ ІВЕРС

**Перастала біцца сэрца старэйшага беларускага паэта, члена Саюза беларускіх пісьменнікаў Анатоля Іверса (Івана Дарафеевіча Міско).**



Яго ведалі ўсе: ад школьніка да настаўніка, ад рабочага да інтэлігента. Чалавек-гісторыя. Вельмі шчыры, сумленны, таленавіты. Ён пражыў доўгае, але нялёгкае жыццё. А калі знаходзіў вольны час — пісаў вершы. Першы паэтычны зборнік "Песні на загонах" пабачыў свет яшчэ ў 1939 годзе. Пасля былі новыя кнігі, шматлікія артыкулы і ўспаміны.

Анатоль Іверс моцна любіў Беларусь, Слонімшчыну і свой народ. Ён радаваўся, калі наша дзяржава стала незалежнай і перажываў, калі знішчаліся нацыянальныя сімвалы і ганьбавалася родная мова. Ён быў мужным, тактоўным і добрым чалавекам. Няхай Вам, Іван Дарафеевіч, бацькоўская зямля будзе пухам!

**Калектыў рэдакцыі "Газеты Слонімскай", творчае аб'яднанне "Літаратурная Слонімшчына"**

**Анатоль ІВЕРС**

***

Я век прыкаваны да хаты
Нядоляю нашай, як раб.
Але ў маіх думках крылатых
Заўсёды іскрыцца зара.

І там — на дарогах
расстайных
Не буду я ўжо варажыць.
Усе чыста заклятыя тайны
Павешу на першым крыжы.

Адзначыць каб
добрую ўдачу,
Я зораў з сабой набяру
І жменяю сыпну — няйначай,
На славу табе, Беларусь.

ВЁСКА

### У Сялявічах мёрзнуць людзі

**У школе, дзіцячым садку, магазіне, кафе, доме быту і ў некаторых жылых дамах вёскі Сялявічы Слонімскага раёна вітае люты холад. Там яшчэ не падключылі сістэму ацяплення.**

Па гэтай прычыне 25 кастрычніка некаторыя вяскоўцы не пусцілі сваіх дзяцей у школу і садок. Дырэктар Сялявіцкай школы Людміла Грабун сказала карэспандэнту "ГС", што "абяцалі затапіць у канцы мінулага тыдня — не затапілі. Калі дадуць цяпло, я не ведаю", — прызналася дырэктар.

Па словах загадчыцы Сялявіцкага дзіцячага садка Ірына Надудзік, яна званіла старшыні райвыканкама Станіславу Здановічу, які паабяцаў не раней, чым праз 2-3 тыдні даць у садок цяпло. А яго намеснік Аляксандр Тарсуноў яшчэ на мінулым тыдні паабяцаў карэспандэнту "ГС", што ў панядзелак, 25 кастрычніка, у Сялявічах пачнецца ацяпляльны сезон. На жаль, ні ў панядзелак, ні ў аўторак, ні ў сераду вёска так і не ацяплялася.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

НАВІНЫ

### Газавы дэфіцыт

**На Слонімшчыне востра паўстала праблема са звадкаваным газам, якім у большасці карыстаюцца вясковыя жыхары.**

Як хутка сітуацыя зменіцца ў лепшы бок дырэктар упраўлення "Слонімміжрайгаз" Анатоль Рудак не ведае. Не ведаюць пра гэта і ў вобласці, і нават у Мінску.

— У нас ёсць яшчэ невялікі запас газу. Днямі адну машыну з балонамі мы адправілі заказчыкам. Часткова задаволім заяўкі і на канец кастрычніка. Але ў цэлым, газавы дэфіцыт на Слонімшчыне ў бліжэйшы час застанецца, — сказаў Анатоль Рудакоў.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

ТРАГЕДЫЯ

### Ракавы стрэл у Казловічах

**Да сённяшняга дня жыхары вёскі Казловічы Зэльвенскага раёна знаходзяцца ў шоку ад трагічнага выпадку, які здарыўся 16 кастрычніка ў сям'і К.**

Прыйшоўшы з палявання, гаспадар хаты паклаў без нагляду сваю стрэльбу. Яе знайшлі 7-гадовы сын Дзіма і 6-гадовы сын Саша. Дзіма ўзяў стрэльбу і націснуў на курок. Адбыўся стрэл, які смяротна параніў брата.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## ВАРЯГА В КРЕМЛЬ НЕ ПУСТЯТ

**Как известно, в ходе своего выступления в государственной Думе России 27 октября, А.Лукашенко представил российским депутатам официальную версию событий, происшедших во время проведения оппозицией 17 октября в Минске Марша Свободы, а также поделился своим видением перспектив российско-белорусского союза.**

И это не случайно, ведь осень 1999 года в России — время крупных политических ставок. В декабре пройдут выборы в Государственную думу. В 2000 году должны состояться выборы президента. Однако для А.Лукашенко все эти мероприятия так и остались "потусторонними", то есть по ту сторону российско-белорусской границы. Как ни напрягался он завершить к 2000 году объединение Беларуси и России, чтобы успеть на президентские выборы, ничего не вышло. К его большому огорчению, ни одна политическая элита, определяющая основные параметры российской политической жизни, не сочла целесообразным поставить на варяга. Осенний баланс политических сил в России, сложившийся после того, как ее правительственный курс возглавил директор ФСБ Владимир Путин, а столичная и региональная элита сгруппировалась в предвыборные политические альянсы, заметно сузил поле политического маневра, на котором А. Лукашенко разыгрывал свои планы покорения заветной кремлевской вершины.



**(Продолжение на стр.4)**

## НА ВАЛАСКУ АД СМЕРЦІ

**Надзвычай "ураджайным" на небяспечныя знаходкі быў канец верасня і пачатак кастрычніка на Зэльвеншчыне.**

Так, 22 верасня ў вёсцы Старое Сяло пры копцы бульбы выявілі мінамётную міну. Пра яе ў райваенкамат паведаміў участковы міліцыянер Віктар Янкоўскі. А праз два дні на бульбяным полі вёскі Міжэрычы людзі зноў знайшлі міну, якая паспела "прайсціся" па транспарцёру бульбакапалкі. Трактарысту пашчасціла, бо, як паведаміў сапёр, калі б міна яшчэ падверглася механічнаму ўздзеянню, то адбыўся б выбух.

Амаль на валаску ад смерці апынуўся і аўтагрэйдэрыст ДЭУ-118 Іван Парфенчык, які знайшоў мінамётную міну падчас падсыпкі дарогі ў вёсцы Сынковічы. На месца прыбыла брыгада сапёраў на чале са старшым прапаршчыкам В.А. Лямзіным са Слонімскай брыгады. Спецыялісты абясшкодзілі небяспечную знаходку.

Як паведамілі спецыялісты, усе тры міны захавалі сваю баяздольнасць, і толькі па шчаслівай выпадковасці людзі не пацярпелі.

**Пётр ЖЭБРАК**

ЭСЭ

## ХОЛАД

**Па сваёй фізіялагічнай прыродзе чалавек лягчэй пераносіць холад, чым спёку. Гэта пацвярджае навука, шматлікія выпрабаванні чалавека ва ўмовах крайняй Поўначы і экватарыяльнай зоне. Нават прафесія такая ёсць — выпрабавальнік. Чалавек добраахвотна падвяргае сябе выпрабаванню холадам ці гарачынёй дзеля навукі, вядома, за грошы.**

У сучаснай Беларусі холад з катэгорыі фізічнай усё часцей пераходзіць у сферу сацыяльную. З надыходам асенніх халадоў вострa паўстае праблема ацяплення гарадскіх кватэр, памяшканняў вытворчых прадпрыемстваў і ўстаноў. Газеты друкуюць інтэрв'ю і каментарыі тых, хто адказны "за цяпло" і назапашванне паліва на асенне-зімовы перыяд. Ужо некалькі гадоў гэта тэма застаецца актуальнай. І людзі не хочуць разумець, чаму яны павінны мёрзнуць у сваіх дамах і на працы, калі зараз не вайна і няма прыродных катаклізмаў. Паспрабуй, растлумач якому-небудзь Івану Іванавічу ці Ганне Цімафееўне, што ў іх кватэрах зараз холадна па прычыне працы цэнтральнага ацяплення "у рэжыме эканоміі" — слухаць не хочуць. Яны ходзяць на працу, плоцяць за камунальныя паслугі і патрабуюць, каб іх абслугоўвалі "па поўнай праграме". Ды і якой эканамічнай неабходнасцю растлумачыш той факт, што немаўляты ноччу прачынаюцца ад холаду, плачуць, не даюць адпачыць бацькам, а ў выніку хварэюць. Тое, што ў краіне на зіму не назапашана ў дастатковай колькасці мазуту, абмежаваны пастаўкі газу, а апошнім часам узнікаюць праблемы і з электраэнергіяй — аргументы недастатковыя, каб чалавек супакоіўся і не "даставаў" адказных мужоў ад раённага да дзяржаўнага маштабу пытаннем: "Калі ўжо ў кватэрах будзе цяпло?". Пішуць, тэлефануюць, патрабуюць, шукаюць вінаватых. Ім адказваюць, запэўніваюць, абяцаюць. Абяцанні не грэюць, але ўсё яшчэ супакойваюць, даюць надзею.

У рэдакцыю газеты тэлефануе жанчына, з абурэннем гаворыць, што ўжо з тыдзень у кватэры тэмпература не падымаецца вышэй 15 градусаў, кажа, што "выходзіла" і на мэра, і на вобласць, што яны нічога не робяць, а "хочуць замарозіць нас, як прусакоў", патрабуе "разабрацца"... Так проста. Наш народ усё яшчэ жыве па старому прынцыпу: "Зараз прыйдзе барын (пан, бацька) — барын нас рассудзіць..." Але "бацькі-паны" бываюць розныя. І сучасныя расійскія "паны", якія дамаўляюцца з нашым беларускім "бацькам" наконт паставак у Беларусь энерганосьбітаў, відаць, не сышліся з ім у кошце. Адсюль для большасці беларускіх гараджан — "рэжым эканоміі". І калі радыкальны сродак выгнання "дрэннага пана з гаспадаркі" для беларусаў не падыходзіць, то застаецца ўспомніць фізічную прыроду цяпла і холаду. А менавіта, паліць усё, што яшчэ ёсць у наяўнасці і можа абагрэць кватэру: газ, электраэнергію... Галота, як вядома, на выдумкі здатная.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

# ДЕНОМИНАЦИЯ: "ЛУЧШЕ УБРАТЬ ПЯТЬ НУЛЕЙ"

**С 1 января 2000 года в Беларуси будет проводиться деноминация денежной единицы и замена обращающихся денежных знаков на новое соотношение: одна тысяча рублей в деньгах старого образца на один рубль новых денежных знаков. Обмен будет проходить в течение всего 2000 года.**

Национальному банку Беларуси поручено обеспечить изготовление и доставку в учреждения банков денежных знаков образца 2000 года, их постепенный ввод в платежный оборот и обмен учреждениями Нацбанка этих денежных средств до 2003 года.

В связи с этим, Нацбанком будут выпущены в обращение новые билеты номиналом 1, 5, 10, 20, 50, 100, 500, 1000 и 5000 рублей. В целях быстрого привыкания населения к новым денежным знакам, в основном, сохранится их прежний вид с нарицательной стоимостью, уменьшенной в 1000 раз.

В такой же пропорции будут уменьшены цены на товары и услуги, пересчитаны счета в банках, балансовые данные отчетов всех юридических лиц и другие обязательства, имеющие денежную оценку.

Расчетные билеты Национального банка Беларуси образца 1992–1999 годов выпуска остаются в обращении на территории страны в течение всего 2000 года. При этом прямой обмен денег старого образца учреждениями банков производиться не будет. А с 1 декабря 2001 года все учреждения банков станут выдавать клиентам билеты только нового образца. Старые же денежные знаки можно будет обменять в учреждениях Национального банка не позднее 31 декабря 2003 года.

В период параллельного обращения денежных знаков старого и нового образцов во всех местах продажи товаров и оказания услуг в ценниках обязательно будут указываться цены как в старом, так и в новом масштабах.

Как заявил бывший председатель правления Национального банка страны Станислав Богданкевич, если с технической точки зрения это решение можно как-то оправдать ("хотя лучше, конечно, убрать пять нулей"), то с экономической – оно является "абсолютной глупостью". По его словам, любая денежная реформа "базируется на стабилизации экономики, сбалансировании спроса и предложения, победе над инфляцией, прекращении обвала национальной валюты". С этими проблемами власть не может справиться и поэтому пошла по пути наименьшего сопротивления, считает С.Богданкевич. "Разумеется, курс один миллион рублей за доллар гораздо больше говорит населению о последствиях экономической политики государства, чем тысяча рублей, хотя зарплаты уменьшатся в такой же пропорции. Однако как бы не пришлось при нынешних темпах инфляции через пару лет вновь деноминировать белорусскую валюту", – отметил С.Богданкевич.

По мнению крупного специалиста одного из ведущих коммерческих банков республики, пожелавшего остаться неназванным, "деноминация, безусловно, облегчит расчеты, так как счетные машины просто не выдерживают такого количества нулей". Между тем, по его словам, это решение вызовет ускорение падения рыночного курса белорусского рубля к иностранным валютам: "Несмотря на успокаивающие формулировки указа, наш народ уже практически не доверяет государству и будет стараться перевести имеющуюся наличность в более надежную валюту", – подчеркнул специалист.

**Дмитрий ВЛАСОВ, Минск**

## НАВІНЫ

### "Навіны" зноў выходзяць

**22 кастрычніка 100-тысячным накладам выйшаў спецвыпуск беларускай апазіцыйнай газеты "Навіны", якая не выходзіла некалькі тыдняў пасля таго, як яе банкаўскі рахунак і маёмасць былі арыштаваны.**

Нумар цалкам прысвечаны падзеям 17 кастрычніка ў Мінску. У сталіцы газета распаўсюджваецца бясплатна. Ужо зафіксаваны выпадкі, калі міліцыя затрымлівала распаўсюджвальнікаў. Рэдакцыя "Навінаў" плануе выдаваць газету два разы на тыдзень, калі не будзе вялікіх перашкодаў з боку ўладаў.

Цікава, што апазіцыйная газета была надрукавана за мяжой, у расійскім горадзе Падольску.

**Сяргей ЁРШ**

### Без адпачынку

**Нягледзячы на тое, што сезон адпускоў закончыўся, і адміністрацыя АТ "Мастоўдрэў" начале з генеральным дырэктарам даўнымдаўно адпачыла, рабочым некаторых цэхаў не даюць магчымасці скарыстаць сваё законнае права на адпачынак.**

Людзі выказваюць меркаванне, што на прадпрыемстве ў хуткім часе будзе на тры месяцы спынена вытворчасць, і рабочых адправяць у прымусовы адпачынак.

**Антон МАКЕЙ**

### Які лёс чакае "Момант ісціны"?

**У здымачнай групы мастацкага фільма "Момант ісціны" няма грошай на заканчэнне работы.**

Слонімцы добра памятаюць здымкі гэтага фільма, якія адбываліся ў нашым горадзе летам гэтага года. Больш таго, многія нашы землякі ўдзельнічалі ў масоўках. Рэжысёр Міхаіл Пташук абяцаў, што 9 траўня 2000 года фільм выйдзе на экраны, але нечакана з'явіліся фінансавыя праблемы...

Пачалося з таго, што Аляксандр Лукашэнка не даў рэжысёру абяцанага мільёна даляраў. Грошы, якія выдаткавала Міністэрства культуры Беларусі, хутка скончыліся. Скончыліся і крэдыты, якія браў дэпутат расійскай Дзярждумы Уладзімір Семага ў расійскіх банках. Большая частка грошай пайшла на аплату аўтарскіх ганарараў вядомых акцёраў (Беаты Тышкевіч, Яўгена Міронава, Аляксандра Балуева і інш.). Шмат выдаткаў здымачная група зрабіла ў крэдыт, а аддаваць няма чым...

Да моманту прыпынення здымак былі адзняты ўсе натурныя сцэны. Засталіся толькі здымкі ў павільёне, а пасля – мантаж і агучванне. Уладзімір Семага звярнуўся па дапамогу да прэм'ер-міністра Расіі Пуціна. Той абяцаў дапамагчы грашыма. "Беларускага кіно ўжо не будзе, – піша "Белорусская деловая газета". – Будзе расійская карціна, знятая на кінафабрыцы "Беларусьфільм"... Беларускі "фільм стагоддзя" правалiўся"...

**Сяргей ЁРШ**

### У сталіцу за пяць гадзін

**Жыхары Мастоў і раёна за пяць гадзін могуць заехаць у сталіцу Беларусі.**

Такая магчымасць з'явілася пасля таго, як паміж Гродна і Мінскам пачаў курсіраваць хуткі дызель-цягнік. Расклад руху даволі зручны. З Мастоў можна выехаць у сем раніцы, а ў дзесяць гадзін вечара ўжо быць дома. Дызель пакуль ходзіць толькі тры разы на тыдзень: пятніца, субота, нядзеля.

### Адзначылі 40-годдзе

**Мастоўская сярэдняя школа №2 адзначыла сваё 40-годдзе.**

На святочныя мерапрыемствы былі запрошаны былыя вучні розных выпускаў. Напачатку настаўнікі знаёмілі гасцей з цяперашнім станам спраў у школе. Затым свята перамясцілася ў раённы дом культуры, дзе прайшло асноўнае мерапрыемства. Зала не змагла ўмясціць усіх жадаючых. Шмат цёплых і прыемных слоў было сказана як цяперашнім настаўнікам, так і тым, хто даўно на заслужаным адпачынку.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

## ФЕЛЬЕТОН

— Уставай, годзе бакі на печы адлежваць! — баба Гандзя ступіла на зэдлік і вострым кулачком піхнула дзеда Міхася ў спіну. — Зараз цэглу прашаруеш, валяўшыся. Схадзі лепш на возера, можа якога карася зловіш. Юшку зварым, а то надакучыў ужо гэты булён са шчаўем. Другі тыдзень ямо.

Дзед, крэкчучы, споўз з печы, сабраў свае рыбацкія прычындалы і падаўся на мясцовае возера. Адзін раз закінуў невад — выцягнуў з вады пачак з-пад цыгарэт "Прыма", другі раз закінуў — за невад зачапілася бляшанка з-падількі. На трэці раз у невадзе з адчаем кулялася Залатая Рыбка. Дзед узяў яе ў рукі і пачаў разглядваць: худая рыбка. Ды і луска нейк цмяна блішчыць, нібы фальшывае тое золата. Мабыць, небарака трапіла ў сцёкавыя воды.

— Ат, які з цябе наедак, — са крухай прамовіў дзед. — Яшчэ атруцішся такой юшкай. Плыві сабе куды хочаш.

— Дзякуй табе, дзед! — чалавечым голасам прамовіла Залатая Рыбка. — Сціплы ты нейкі, нічога не просіш. Хіба казак Пушкіна не чытаў? Я ж чароўная. Магу табе дапамагчы. За тваю дабрыню нічога не пашкадую. Прасі, чаго трэба.

— Усяго трэба, — кажа дзед. — Цукар у нас скончыўся, мука таксама на зыходзе, даўно забыліся як каўбаса пахне. А яшчэ зіма надыходзіць, а ў бабы абуць няма чаго. Словам, усё трэба.

— А раз так, то падарую табе спажывецкі кошык. Там усё ёсць. Праўда, не задарма. Не камунізм, нябось, каб задарма карыстацца. Плаціць будзеце, усё там па палічках раскладзена: што, за што і колькі. Будзеце браць з гэтага кошыка, а плаціць, як заўсёды, у магазіны, аптэку. І запомніце, што вам, дваім пенсіянерам, можна выкарыстаць усякага дабра на 13469720 рублёў. Столькі каштуе ваш спажывецкі кошык.

Залатая Рыбка нырнула ў глыбіню возера і неўзабаве вынырнула з кошыкам, поўным усякага дабра.

— Гэта вам з бабай на месяц. А як месяц закончыцца, прыйдзеш зноў. Дам новы. Невад не закідвай. Проста прыдзі сюды у гэты ж самы час і стой, чакай. Я выплыву, — сказала так і знікла ў азёрная шэрані.

Дзед з радасцю схапіў кошык ды зноў апусціў на зямлю: такі ён быў цяжкі. І чаго




толькі ў ім не было: цукар, вэнджаная каўбаса, парашок для мыцця бялізны, мука, каструля, лекі, селядцы і нават зімовыя боты для бабы і порткі для яго.

— Вось дагадзіла Залатая Рыбка! — прашаптаў дзед і расчулена выцер шурпатым кулаком шчаслівую слязу. — Нават порткі для мяне не забылася пакласці. Ведае, што нам з бабай хутка на ўнукчына вяселле ісці, а портак добрых у мяне няма. Малайчына, Рыбка, усё ведае!

Ён натужыўся, адарваў кошык ад зямлі і ледзь давалок усё дабро дамоў.

Баба, як убачыла гэта багацце, аж зазззяла ад радасці. Кожная яе маршчынка свяцілася шчасцем. Дзед расказваў, як яму пашанцавала на рыбалцы, а баба выкладвала на лаву ўсё, што было ў кошыку.

— А сасіскі няма! — раптам накінулася яна на дзеда. — Хачу сасіску! На мінулым тыдні да кумы Лёдзі ўнучка прыязджала, сасіску прывозіла. Кума давала мне каштаваць. Але і добрая рэч для старэчых зубоў: мякенькая, амаль жаваць не трэба.

— Пачакай ты са сваёй сасіскай. За ўсё гэта дабро яшчэ заплаціць трэба. За прадукты — у краму, за лекі — у аптэку, за боты і порткі — у раённы ўнівермаг. Так што спачатку разлічымся, а потым ужо будзем карыстацца.

Заўтра ранічкай дзед з бабай узялі грошы, як і казала Залатая Рыбка, 13469720 рублёў і паехалі ў райцэнтр. За каўбасу прыйшлося аддаць чатыры з паловай мільёны рублёў, а што там яе есці. За чатыры кілаграмы цукру, якія ім патрэбны на месяц, аддалі амаль 1 мільён рублёў. Больш як два мільёны пакінулі ў аптэцы за лекі, 600 тысяч аддалі за пральны парашок у магазіне гаспадарчых тавараў, ды два мільёны з гакам за эмаліраваную каструльку. Яе край трэба было купіць, бо старая пацякла, і дзед не даваў рады залатаць. Потым у раённым універмагу з іх запатрабавалі амаль пяць мільёнаў за порткі і шэсць за бабіны боты. І то сказалі, што гэты тавар танны, таму што паступіў раней. Цяперашнія цэны яшчэ большыя.

Усяго трэба было аддаць больш за 20 мільёнаў рублёў. Дзед з бабай схапіліся за галовы. А калі прыйшлі ў сябе, то ад ботаў і портак адмовіліся адразу: не да абновак, бо пенсіі не хапае.

— Усё, баба, больш ні за што плаціць не будзем, нам жа яшчэ патрэбна з гэтых грошай выкраіць на святло, газ, цэлы месяц купляць білеты на аўтобус, і мне абавязкова цёплыя кальсоны на зіму трэба купіць, а то радыкуліт і так замучыў. Можа ў гэтыя грошы і ўкладземся.

— Укладземся-я-я, — перадражніла баба, якую ўжо разбірала злосць. — Вось ласку зрабіла табе Залатая Рыбка! Як я буду без ботаў? А ты што, на ўнучкына вяселле ў старых портках пойдзеш ці можа маю спадніцу адзенеш? Ды пайшоў ты са сваёй Залатой Рыбкай у балота! Каб мне больш не звязваўся з гэтай аферысткай! Абдзерла нас, як ліпку, усю пенсію выграбла ды яшчэ і не хапіла на многае. Больш не пойдзеш на возера! З'ямо гэта, што ёсць, і зноў пяройдзем на булён са шчаўя.

— А ты яшчэ сасіску хацела! — упікнуў дзед.

Роўна праз месяц Залатая Рыбка ў вызначаны час высунула з вады сваю бліскучую мордачку, але дзеда на беразе не было. Яна вынырвала некалькі разоў, не прышоў стары. Толькі ў прыбярэжнай асацэ валяўся спажывецкі кошык, а ў ім бабіны боты, дзедавы порткі і ўсё астатняе, за што старыя не змаглі заплаціць.

**Раман КАЛЕСНІКОЎСКІ**

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.97г.
Юрыдычны адрас: г.Слонім, Брэсцкая, 109/12
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас для пісем: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5.
Тэлефоны:
рэдакцыі........... 2-14-39
............(017) 210-87-17
аддзел рэкламы 2-49-39

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 27 кастрычніка 1999г. Час падпісання 8:00.
Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.

Падпісныя індэксы:
64042 (індывідуальная)
63818 (ведамасная)
Наклад 7800 экз.
Заказ №2756
© «Газета Слонімская»
Спасылка на "ГС" абавязковая
Ⓚ Матэрыялы публікуюцца на правах рэкламы

E-MAIL:gs@irex.minsk.by HTTP://www.irex.minsk.by/gs

АНАЛИТИКА

# ВАРЯГА В КРЕМЛЬ НЕ ПУСТЯТ

### Учитель называется

Сильное огорчение у Лукашенко вызвало появление предвыборного блока "Отечество"-"Вся Россия". Лужковская комбинация, быть может, впервые серьезно поколебала его надежды побороться в следующем году за кремлевский престол. Региональная элита, на поддержку которой шкловский интегратор рассчитывал более всего, после некоторых колебаний примкнула к влиятельной московской номенклатуре. Уже "раскрученная" фигура Е.Примакова, вставшего во главе новообразованного блока, заслонила собой значительную часть российского политического горизонта. В нише левого популиста на российском электоральном поле, помимо коммунистов, прочно обосновался политический тяжеловес, который обладает умом и политическим опытом, не сравнимым с потенциалом Александра Григорьевича.

Видимо, поэтому еще 19 августа, общаясь с журналистами, А.Лукашенко почти не скрывал своей досады и разочарования. С явным раздражением он говорил о том, что не одобряет создание блока "Отечество"-"Вся Россия", приводя при этом какие-то мало понятные аргументы. С еще большим неодобрением отозвался он о решении Е.Примакова возглавить предвыборный список этого блока: мол, идя на такой шаг, "учитель" (так он величает российского экс-премьера) совершает серьезную ошибку, не следует крупному политику ввязываться в драку, его дело — парить над схваткой. Однако за словесами, адресованными журналистам, легко угадывался крик обиды переполненной политическими амбициями лукашенковской души: дескать, куда он залез, нахал этакий, я же туда первый топтал дорожку; а еще друг, еще учитель называется.

Вообще, ситуация принимает для А.Лукашенко рискованный оборот. Перспектива отдать не за понюшку табака то, чем уже владеешь, стала обретать для него конкретные очертания. Похоже, белорусский интегратор начал догадываться, что его поход на Кремль на данном этапе — предприятие бесполезное.

### "Пойди-ка, братец, послужи"

Скажем яснее. Приблизившись к российскому политическому Голиафу на опасно близкое расстояние, измеряемое всего одной подписью на союзном договоре, он почуял, что при нынешнем политическом раскладе справиться с ним нереально. Зато реально потерять вместе с белорусским суверенитетом должность высшего государственного лица независимой страны, не получив при этом никакой компенсации.

Учитывая осеннюю политическую конъюнктуру как внутри России, так и в белорусско-российских отношениях, можно предположить: в том, что касается интеграционных игр, дальнейшая политическая линия А.Лукашенко будет более осторожной (осторожной, но не иной!). Разумеется, настолько осторожной, насколько позволят уже завязанные при его активном участии политические узлы (не напрасно же сказано: коготок увяз, всей птичке пропасть).

Иначе говоря, в интеграционном проекте А.Лукашенко появляется новая интонация. Ее тональность навеяна страхом. Политические обстоятельства складываются так, что побуждают его помнить о возможных путях отступления (отнюдь не случайно председатель так называемой Палаты представителей А.Малофеев в одном из недавних интервью вдруг заявил о необходимости законодательного укрепления белорусской государственности). Сохраняя прежнюю риторику, главный чиновник страны свое желание слиться в родственном экстазе со "старшим братом" обставляет оговорками. Характер последних выдает его обеспокоенность развитием событий и желание иметь страховку на тот случай, если Москва навяжет ему неприемлемый сценарий.

Еще в марте-апреле он уверял, что в объединении с Россией согласен идти настолько далеко, насколько она сама этого захочет. Спустя четыре месяца в уже упоминавшейся беседе с журналистами 19 августа главный белорусский начальник без особого энтузиазма поведал о том, что мы (то есть белорусская сторона) по-прежнему готовы подписать союзный договор с Россией. Но, подчеркнул он, "никаких вхождений" в РФ. Только равноправный союз двух независимых государств на международных принципах.

И как в воду глядел. Минская редакция союзного договора Москвой фактически отклонена. Положения и пункты, которые позволяли бы ему претендовать на высшую власть в России, в опубликованном 8 октября московском проекте союзного договора отсутствуют. То, что кремлевско-лубянские хозяева сегодня предлагают минскому клиенту за сдачу Беларуси, его явно не устраивает. Он ждет не дождется, чтобы попасть на господскую половину, а в Кремле ему говорят: "Для начала пойди-ка, братец, послужи".

### В Кремле чужаков не любят

Почему же Москва проявляет такое каменное нечувствие к интеграционному порыву минского друга? Почему не идет на предложенную им сделку? Для Б.Ельцина было бы совсем неплохо завершить свое в целом бесславное президентство столь эффектным жестом. Пристегни он к разваливающейся империи Беларусь, многие его грехи забудутся.

В Кремле это понимают, и отказываться от белорусского пирога не собираются. Однако вопрос состоит в том, что у теперешней кремлевской корпорации власти есть другая, не менее важная забота: как заменить почти разложившееся вещество нынешнего президента человеком, который был бы предсказуем и, безусловно, лоялен к членам ельцинской семьи и команды.

Основное содержание нынешней острейшей политической борьбы в России почти полностью покрывается проблематикой смены высшей государственной власти. Влиятельная часть российского политического истэблишмента, организованная и задействованная внутри и вокруг сросшейся с олигархами номенклатурной верхушки, российских спецслужб, МВД и армии, стремится не допустить к власти чужаков. Повязанный с ельцинской командой общими экономическими интересами и ответственностью за катастрофическое положение страны, за чудовищную коррупцию, этот истэблишмент заинтересован в том, чтобы теперешняя корпорация верховной власти, несмотря на смену первого лица государства, уцелела. Сохранение ее на плаву — это гарантия сохранения интересов и безопасности всех, кто связан с ней по жизни и деятельности.

### Процесс набирает обороты

Пока власти предержащие не утратили государственных рычагов воздействия, они добиваются того, чтобы политическая игра разыгрывалась по их правилам и под их контролем. Чехарда со сменой правительства (пятое за неполных два года) — это не столько желание добиться наиболее эффективного управления страной, сколько подбор и поиски оптимальной для собственных интересов расстановки политических фигур и комбинации политических сил. Все должно быть подчинено и должно работать на один единственный результат — найти и посадить в кремлевское кресло "нужного" человека.

В число легальных соискателей этой вакансии белорусский клиент пробивается давно. Но кремлевско-лубянские привратники отдают себе отчет в том, что в разгар этой труднейшей кампании вывести на политическую сцену А.Лукашенко, человека непредсказуемого, импульсивного и своевольного, означало бы пойти на неоправданный риск.

Поэтому, невзирая на всю буйную интеграционную прыть А.Лукашенко, в первопрестольной никто не собирается пускать его дальше сеней. Кремлевские капитаны понимают, что объединение Беларуси с Россией по минской формуле означает неминуемую попытку "лидера всех славян" повторить на российском электоральном поле свой излюбленный популистский трюк, который был весьма успешно проделан им на глазах у доверчивых белорусов в 1994 году.

Чтобы исключить риск прорыва внесистемного игрока, Кремль и впредь будет держать белорусского соискателя "в черном теле", лишь время от времени позволяя ему вытягивать шею и заглядывать на господскую половину. Если же минский охотник за царской мантией станет проявлять настырность и несговорчивость, можно будет вовсе отказаться от его услуг. Продвигаемый Москвой проект союзного договора как раз предусматривает возможность и механизм поэтапного втягивания Беларуси в российскую империю независимо от воли и капризов А.Лукашенко.

**Вячеслав ОРГИШ, доктор философских наук**

ЯК БЫЛО НА САМАЙ СПРАВЕ

# "ІХ МЭТА — ЗАДУШЫЦЬ НАС"

**Дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі даволі аднабакова і прадузята асвятляюць падзеі, якія адбыліся ў Мінску 17 кастрычніка падчас Маршу Свабоды. Пры гэтым зусім не даюць слова самім удзельнікам акцыі, замоўчваючы рэпрэсіі, якія прымяняліся супраць людзей.**



Фота IREX/ProMedia

*Хапун 17 кастрычніка, Мінск*

Сёння мы друкаем сведчанні ўдзельнікаў акцыі, якія трапілі ў рукі міліцыянтаў. Там, па словах людзей, над імі здзекваліся, нібы ў гестапаўскіх засценках ці ў падвалах НКУС.

***Вольга Бар'ялай, маці траіх дзетак (дачцы 5 гадзікаў, двум сынам па 4 гады):***

— Мяне затрымалі, калі я ўжо ішла дадому. Мы неслі згорнуты плакат. Адвезлі ў Першамайскі РАУС, дзе пратрымалі прыкладна да трох гадзінаў ночы. Потым мяне і яшчэ 9 чалавек выклікалі, вывелі ў калідор. Куды нас збіраюцца весці — не растлумачылі. У калідоры з'явіліся амапаўцы — па аднаму на кожнага затрыманага. Валаклі за каўняры, кагосьці білі нагамі ў спіну. Кідалі ў аўтобус, у якім не было сядзенняў, а толькі жалезны каркас. Нас кідалі на гэты каркас. Атрымалася куча людзей у 3-4 слаі. Я апынулася знізу. Сярод нас быў 65-гадовы журналіст, у якога не было пасведчання. Калі машына паехала, пачалі збіваць нагамі. Амапаўцы не дазвалялі падымаць галовы, каб мы не бачылі іхніх твараў. Што тычыцца мяне, то ўдары ад ног трапілі толькі па руках, бо зверху на мне былі людзі.

Што я чула? Як аднаму з хлопцаў разадралі рот. Яны рагаталі і крычалі: "На, сасі". Шчыра кажучы, я думала самае найгоршае. Хлопец захлёбваўся, задыхаўся і хрыпеў. Калі мне стала дрэнна і я застагнала — яны спалохаліся і мяне выцягнулі. У гэты момант я ўбачыла іхнія твары і магу іх апазнаць.



Фота IREX/ProMedia

*"Канвеер"*

Калі пад'ехалі да спецразмеркавальніка, сталі вышываць па пяць чалавек. Апошніх пакінулі каля аўтобуса і загадалі паставіць ногі на шырыню плеч. Паступова ўдарамі па нагах ставілі іх шырэй і шырэй. Калі чалавек падаў — збівалі дубінкамі і нагамі. Відовішча — жахлівае! Некаторыя былі выпадковымі прахожымі. Ніякіх правоў — поўная бездапаможнасць. Яны казалі такія рэчы, якія немагчыма пачуць нават ад крымінальнікаў. Крычалі, што нас закапаюць, заб'юць, што нам нельга жыць на гэтай зямлі. Я іх угаворвала: "Хлопцы, вы што, у мяне ж трое дзетак". У адказ: "Тваіх дзяцей трэба закапаць". Іх мэта — задушыць нас. Тых, хто не баіцца казаць праўду.

Мяне не прынялі ў спецразмеркавальнік, і тыя ж 15 амапаўцаў павезлі назад. Адзін з іх паглядзеў мой пашпарт і ўбачыў, што я замужам за замежнікам. Што тут пачалося! Яны лаяліся матам і крычалі што зараз згвалтуюць і "пусцяць па колу", і я нікому нічога не дакажу.

***Уладзімір Кашчэнка:***

— Нас было 14 чалавек. Пагналі ў аўтобус, б'ючы ў спіну. Пераважна білі па нырках. Мне пашанцавала: я ўпаў і прапоўз паміж амапаўцамі. Толькі штурхнулі нагой. Людзей навалілі кучай. Дзяўчат закінулі зверху. У мяне не павярочваецца язык сказаць словы, якімі абражалі дзяўчат. Яны лічылі, колькі ў іх "атрымлівалася" за ноч з дзяўчатамі і палохалі, што з імі зробяць тое ж.

Потым крычалі: "Спявайце, сукі!". Хлопцаў лупілі, а дзяўчат прымушалі спяваць "В траве сидел кузнечик". Потым загадалі падпяваць усім. Хто не ведаў слоў — білі, пакуль тыя не гублялі прытомнасць. Я не ведаю дакладна, колькі часу вось так здзекаваліся, але больш за дзве гадзіны. Два чалавекі знізу пачалі задыхацца і ледзь не памерлі, пачалі ўжо хрыпець. Тады амапаўцы спужаліся і пачалі крычаць: "Быдла, хутчэй разграбайцеся, дапамагайце сваім!". Мы пачалі рабіць штучнае дыханне і масаж. Праз некалькі хвілін яны трошкі ачнуліся: пачалі дыхаць і адкрылі вочы. Сярод нас быў хворы чалавек і адзін эпілептык. Прасілі выклікаць хуткую дапамогу, але міліцыянты гэтага не зрабілі. Эпілептыку стала дрэнна.

Перад самым Акрэсціна машына спынілася і амапаўцы пачалі казаць: "Хлопцы, вы не думайте, мы не такие звери, мы просто шутим...".

**Запісала Таццяна ВАНІНА, карэспандэнт газеты "Беларуская маладзёжная"**

